**Не спіцца..**

**1 * * ***

Адна, яшчэ адна зацяжка,
туман, раса — усё ў адно!
Барвяны верасень, як пляшка
з густым настоеным віном.

І ноч з павагаю лагоднай
ласкава гладзіць па плячы,
спакойна, хораша, пагодна,
дапраўды, нервы ні пры чым.

А ўсё-ткі нешта ёсць на свеце,—
чаго, на жаль, не прамінеш,
па нейкай стоенай прыкмеце
яго, як цень свой, пазнаеш.

І чым бліжэй, тым больш жывуча,
з падзякай хлебу і вадзе,
ідзеш пакорліва над кручай,
не знаючы, калі ўпадзеш.

**2. * * ***

Мне не адбіцца ад пагоні
бяссоння цяжкага ніяк...
Ад станцыі ідуць вагоны,
і мой пакуль што — паражняк.

Я восень чую ў звоне рэек,
і адбягаюся назад.
і добра знаю — не сагрэе
душу шырокі далягляд.

Не той агонь! Цяпло не тое!
Гарачы летні дзень патух.
Не ўбіўся б толькі у прастоі
маім жыццём пачаты круг.

Няхай з — туманам, золлю, друзам,
праз голы луг ці праз кусты,
тут пройдуць зноў вагоны з грузам,
мой — гэтаксама не пусты!

Хай будзе шчасна рэйс завершан,
хай спіць дарожны вартаўнік,
хоць, можа быць, вагон мой першым
з дарогі пойдзе у тупік.

Састаў праходзіць... Позірк ціха
услед — вядзе дыяганаль,
ты можаш ветрам, сцюжай дыхаць,
не падвядзі надзеі, даль.

3 * * *

Усё другое — іншым разам,
цяпер люблю пару размоў
без сведкаў! З цішаю сам-насам,
дзе не бывае лішніх слоў.

Трапеча шэранькі ў трывозе,
над галавою б'еціца птах...
Мне ўсё здаецца — я ў дарозе,
і мой бясконцы будзе шлях.

Адкладваю на потым справы,
маўляў, усё сваёй чаргой,
а мо ўзыходзяць дзесьці травы,
што разрастуцца нада мной.

У кожнага свая аблога,
дзе ёсць пачатак і мяжа,
перад якою ёсць трывога;
ці ўловіш ты яе, душа?!

Але навошта? Мне — не спіцца.
Дала такога кругаля!
Ніяк не сцішыцца сініца,
а колькі шуму падняла...

* * *

Усцешна слізгане над жытам
маркотнай кнігаўкі крыло,
я не шукаю ў пражытым
загубленых надзей святло.
Яшчэ разгублена нямнога,
яшчэ растрачана няўзнак,
хоць і бяжыць мая дарога
не па прамой, а наўскасяк.
Яшчэ душа мая наросхліст
і, як знаёмую, здалёк
пад бесклапотны ветра посвіст
мяне вітае васілёк.
І нездарма! Я сэрцам рада
і гэтай кветцы, і граку,
што сочыць за маім паглядам,
прысеўшы на сухім суку.
Ах, камячок, жывы і пудкі!
Ты зразумей, я тут — не госць!
За кожнаю галінкай гнуткай
мая гуляе маладосць.
Я пакланюся сёння долі
ў парыве новым пачуцця:
вядзе мяне мой лес па полі,
як маці па жыцці дзіця.

* * *

Камусьці крыўды спакваля
дарую,
зласліўцу смела ў вочы
я гляджу,
душой сваёю ў дабрыні
шчырую,
таму так лёгка па зямлі хаджу.

А што злавацца ў годнасці
высокай!
Ёсць асалода ў слове:
даравацць!
Хто не займеў душы,
як свет, шырокай,
таго патрэбна проста —
шкадаваць!

## Музыка

**1** * * *

Мне не ставала толькі музыкі,
усё астатняе — было!
Дык заіграй жа, промень вузенькі,
каб аж дрыжала ў рамах шкло.

Кідаю вобзем кубак пеністы,
гуляю звонка ад відна,
і смех вясёлкаю праменістай
іграе ў кропельках віна.

З чаго ў мяне такое свята?
Цяпер ужо не зразумець!
Іграю я, іграе хата,
і абяцае клён шумець!

Ён пад акном за вартавога,
але да музыкі ахвоч:
было б яе багата ў бога,
а мы змаглі б гуляць і ноч.

Гуляць адчайна і трывожна...
Ну, што мне чалавек той дасць,
куды аднойчы з раздарожжа
заехала пабавіць час.

Міналі дні з дажджом і з пылам,

мне б зненавідзець, знелюбіць!
Ну, што з таго, што стаў ён мілым,
калі павінна я забыць.

Забыць! Забыць! Там бераг — коўзкі,
чужое для мяне імя,
там нават гіпсавы Чайкоўскі,
але там музыкі няма!

Там для мяне не заіграе
хоць бы ў адну струну душа,
ляціць наўсцяж мяне прамая
у адваротны бок шаша!

А я з душы зрываю гузікі —
такая сёння весялосць!
Мне не ставала толькі музыкі,
цяпер яна, дакладна,— ёсць!

**2. * * ***

Калі западае клавіш —
бездапаможныя ноты,
навошта позіркам славіш
прычыну маёй самоты?..

Ужо ападае лісце,
па ім, як па светлым праёме,
вяртаюся ў тое «калісьці»,
ў якім мы, на жаль, незнаемы.

**3 * * ***

Якая музыка была!
Маўчыць начны праспект сталіцы.
Пазычу пёрынку з крыла
у заблукалае арліцы.

Каб лёгка, дзёрзка мне ўзляцець
над неадліпнай адзінотай,
дзе знуджана траве гудзець
басовую цягучай нотай.

Траве, якую шэрсціць град,
дзе грэе лапкі птах азяблы,
і спакушае жонак гад
пакаштаваць таемны яблык.

Траве, дзе ладзяць мурашы
на дождж устойлівыя соты...
Як лёгка выпырхнуў з душы,
ужо не ведаецца — хто ты?!

Ці сябра, мілы на гады,
ці вораг, памяццю закляты,
ляцець... ляцець няма куды,
акром шчаслівага — да хаты!

Спакойна сесці да стала...
Якое ўсё-ткі неба мела!

Якая музыка была!
І, дзякуй богу,— адшумела!

* * *

Зіма размашыста пазначыць
сумётам схіл берагавы,
і немагчыма ўжо зынначыць,
як лёс той, накід снегавы.
Абую матчыны валёнкі
і папрастую наўздагад
туды, дзе тонкія сасонкі
журбою высветляць пагляд.
Туды, дзе хіліць долу голле
цяжкая снежная кайма,
сасонкі, рэчка, потым поле,
і большага ў мяне няма.
Табе працей, пейзаж прырэчны,
ты мне з гадамі даражэй,
і ад учынкаў недарэчных
цябе прырода ўбераджэ.
А я вяду з сабою сваркі,
хачу на шчасце дні нізаць,
і немагчыма без памаркі
з жыцця жыццё перапісаць.
Іду да некага з віною,
і нехта прыхаваў віну,
і дзень удачы — навіною,
і тыдні страт — не ў навіну.
Сняжок задзірыста іскрыцца,
ля сосен запаволю крок,
дзе, ну, зусім як я, храбрыцца
чырванагруды снегірок.

## Прыцемкам у бярэзніку

Баюся словамі сурочыць,
часцей,— душою гавару,
зімовы прыцемак азмрочыць
бярозы белае кару.
Нібы жанчына пры расстанні,
яна са змроку паўстае;
і штосьці ёсць ў яе дыханні
ад рызыкоўнасці мае.
Сумёты снежныя, як одум,
грунтоўным накідам ляглі,
якому ж сэрцу я злагоду
нясу за ветрам па зямлі?!
Парой разважліва, ціхмяна,
але ж упарта сцерагу
жывы скразняк ад шалу п'яны
на самым ветраным рагу.
Мой дзень — пяшчотай не сагрэты,
душа,— маўчы! Маўчы! Маўчы!
Мне — добра! Я жыву дагэтуль,
як з аблачынкай на плячы.

* * *

У кожным слове ёсць мастацтва,
жыве па прынцыпу адным:
з маленства ўступіш у сваяцтва —
не назавеш павек чужым.

І з гэтай простаю высновай
у моцу сіл сваіх пяеш,
са слова пачалася мова,
а што я, людзі, без яе?!

* * *

Не паддаюся ленасці і стоме,—
жыццё прысудна ставіць свой залік!
А дні мае на тым высокім зломе,
калі патрэбна весці пераўлік.

І вось жыву: падлікамі занята,—
тут будзе плод, тут — завязі няма!
Спяшаюся... высейваю зярняты
і спадзяюся — сею не дарма.

Бывае, што не ўлічваю паводкі
і часта забываю не сухмень...
Гады мае! Я згодна на кароткі,
але ўрадлівы і адметны дзень.

## Вясна дыктуе мне радок

**1 * * ***

Ужо сплывае снегу намець,
вясна аблашчвае праспект,
пакутліва гартае памяць
адшапацелых дзён канспект.

На дзень вясновы бласлаўляю
вясёлых птушак галасы,
з цяплом у сэрцы аднаўляю
былых каханых адрасы.

Я ні на кога не ўскладаю
віны за смутак горкіх страт,
іду з зімы насустрач маю,
дзе кожны клён мне — родны брат.

Дзе непаўторнае адценне
кідае месяц веснавы,
на дрэў зялёнае адзенне,
на шолах першае травы.

Я зноў гатова развітацца,
а потым памяць аднавіць,
яшчэ мне ёсць куды вяртацца,
яшчэ мне ёсць каго любіць.

З зімы выходжу маладая,
праспект іскрыцца, як клішэ,
мой новы дзень — вясна вітае,
а сэрца — памяць беражэ.

**2. Бялынічы. 1977**

Я ад'еду, напэўна, ад'еду,
развітаюся з гэтай ракой,
дзе ільды па нябачнаму следу
адплываюць на вечны спакой.
Адплываюць у далеч прадвесня,
як аблокі ў чаромхавы сад,
нават сэрца трывожная песня
іх ужо не паверне назад.

Мне таксама збірацца ў дарогу,
чую рэек стальных парагуд,
вось таму не хаваю трывогу,
вось таму затрымалася тут!
Адшумяць сакавіцкія ветры,
схлыне талых снягоў каламуць,
я, што рыба твая на паветры,
мая сіняя, сіняя Друць.

**3 * * ***

Вясны ўтрапёнае дыханне
пачула на лясной мяжы,
зрывае золкае світанне
з галін змакрэлых капяжы.

Эх, заспяваць бы, ды няможна,
шчымлівы надта хвойны пах.
Іду сцяжынай асцярожна
з маўклівай песняй на губах.

Дубы вялікасна пасталі,
нібы заморскія купцы,
а на сырой шчацэ праталін
траншэй і бруствераў рубцы.

З якога дня, з якое явы
выходжу — справа тут не ў тым!
Бяроста, нібы чуб русявы,
туман разрэджаны, як дым.

Ля пнёў замшэлых густа трэскі,
як гільзы чорныя, ляжаць,
а побач першыя пралескі
слязою матчынай гараць.

Застукаў блізка гулка дзяцел,
а мне пачуўся посвіст куль,
у сорак трэцім родны дзядзька

мой не прыйшоў дамоў адсюль.

**4. На бацькаўшчыне**

Я на старым веласіпедзе
знаёмай вуліцай імчу,
і мне глядзяць услед суседзі
з адкрытай радасцю ўваччу.
Глядзіць і мудра, і зычліва
душа вясковай грамады,
вось нехта выгукнуў: «Шчаслiва!»,
ды так — нібыта на гады!
А што гады? Яны, як рэчка,—
за хваляй хваля, дзень за днём...
У нейкі з іх пайшла я ўпрочкі
адсюль, як Саўка за агнём.
А Саўка вунь стаіць ля хаты,
а я сягоння ў вёсцы госць,
і нечы з-пад варот калматы
шчанюк на мне спагоніць злосць.
Зальецца ўслед адчайным брэхам,
пядалі лёгкія кручу,
нібыта за сваім жа рэхам
вясковай вуліцай імчу.
Вітае позірк наваколле,—
гады далёкія мае,—
і за спіною звонка голле
вясну яшчэ адну пяе.

**5. Сакавіцкі верш**

Ты дарэмна, дзядзька Прошка,
кажаш: «Любата!»
Неўзлюбіла ваша кошка
нашага ката.

Днямі стогне, бедалага,
хоць бы не сшалеў!
На загнетку ў хаце блага,
не ратуе хлеў.

Сакавіцкі вецер свішча,
слухай ды тужы.
На суседняе гарышча
ходзіць кот чужы.

Не журыся, кот Максімыч,
прыхавай слязу,
я табе аж з-пад Бялыніч
кошку прывязу.

Вось тады ты, дзядзька Прошка,
скажаш: «Любата!»
Ой, паплача ваша кошка
без майго ката!

**6. * * ***

Вы маю неспакойнасць уважце.
Людзі добрыя, гэта ж — вясна!

Маладое, трывожнае шчасце,
недапітая радасць да дна.

Вашы мілыя твары — не маскі!
У вачах я вясну пазнаю...
Людзі добрыя, нельга без ласкі,
дык уважце пяшчоту маю!

Я стаптала сцяжынак нямала,
пакідала гаркоту ў слядах,
я адчайна чаромху ламала
ў салаўіных зялёных садах.

Хоць бы раз закрычала са злосці,
зубы сціснуўшы, долю кляла:
я чакала каханага ў госці,
з некаханым у лета ішла.

Памірала — жыццё ратавала,
млела поўня ад шчасця ў акне,
я сябе толькі ў снах шкадавала
і бяздумна ішла па вясне.

Размывае ізноў каляіны,
не шкадуючы сілы, яна,
і высвіствае сад салаўіны
недапітую радасць да дна.

**7.** * * *

Вясна дыктуе мне радок,
на досвітку туманным будзіць,
надзей запознены гудок
чамусьці ўсё яшчэ не трубіць.

Я надта многа не прашу!
Цяпер ужо не так і проста
прыняць без роздуму ў душу
патрэбы сталага узросту.

Хай чым захоча свеціць даль,
іду, наўздзіў, павольным крокам,
удумліва ўбіраю жаль
прывучаным да жалю зрокам.

Люблю вясновы ціхі дзень,
туман замглёнага світання,
з палёгкаю гляджу на цень
свайго апошняга кахання.

Пачуцці даўнія маўчаць,
а дойдзе ноч да небакраю,
як страшна хочацца крычаць:
і спадзяюся, і — кахаю.

* * *

Я з душы сваёй вырвала слова
і яго акрыліць не змагла!
За абдымак куплю ў птушкалова
маладога пад восень шчыгла.

Каб сшалелы, не проста з настрою,
а з высокае гэтай цаны
заспяваў ён што-небудзь такое...
рызыкоўнае... наўзманы.

Падхаплю перасохлым дыханнем,
што ж ад змоўклага лета чакаць?!
Ці не лепш мне з вучнёўскім
стараннем
ссалавелай душы падпяваць?!

Ветры моцныя ў шыбы ляскочуць
затуманеных з рання акон,
дзесьці бабы дарэмна сакочуць,
што бясслаўна лячу пад адхон.

Дзякуй богу за нораў нязломны,
непрывыклы таіцца наўзбоч,
аддаю супакой нескаромны
за адну разгавелую ноч.

За адно акрылёнае слова...
і на добрую славу шчыглу
абдыму яшчэ раз птушкалова,
а іначай і жыць не магу.

* * *

Пакуль жыву — агнём гару!
Іначай быць ніяк не можа.
Я сонца некаму дару,
і нехта ў горы мне паможа.

Праврвецца з сэрца жалю спеў,
маё дзіця яго пачуе,
я некаму дарую гнеў,
і нехта слабасць мне даруе.

І абяцае добрым быць
дзень сённяшні і дзень наступны,
вучу душу сваю любіць
усё, што позірку даступна,—

ад хаты і да мураша,
ад небасхілу да асфальту,
пакуль жыву,— нясі, душа,
любві зямной зямнуюварту.

## Два вершы

*Маме*

* * *

Як ціха яблыні шумяць
у нашым садзе,
мы адвячоркам ля акна
з табой прысядзем,
пачну расказваць пра сябе,—
табе цікава,
а мне лавіць бы на сабе
пагляд ласкавы.

Жаночы лес — няпросты лес,
я гэта знаю,
удосталь смеху, ўдосталь слёз —
усё прымаю,
да сэрца блізка не бяры
мае нягоды,
яшчэ спяваюць салаўі
мне цераз годы.

Як ціха яблыні шумяць
у нашым садзе,
давай жа, мама, ля акна
з табой прысядзем,
цень адвячоркавы, густы
на шыбку ляжа,

табе пра тое, што ўтаю,
вясна дакажа...

* * *

Адрываюся зноў ад парога,
я прашу цябе, мама, не плач!
Дай што-небудзь сваё на дарогу
і за ласку скупую прабач.
Развітацца не умею дагэтуль,
адыходжу, звычайна, без слоў...
Наўздагон мне вясёлае лета
выпускае сваіх матылёў.
Легкакрылыя, з яркай рыжынкай,
і яны вылятаюць у свет,
быццам дражняць каго над
сцяжынкай,
на якой пакідаю свой след.
Ну, канечне ж, яна дарагая,
лепшых сцежак у свеце няма,
цеплынёю тваёй патыхае
верасовая, мама, кайма.
Нашы дрэвы над ёй пастарэлі,
на Друці абмялелі брады,
і дзіцячае казкі арэлі
мне цяпер замяняюць гады.
Прыбіваюць нястрымнаю хваляй
да пяшчотных тваіх берагоў,
дзе рабіны ў пунсовых каралях
не баяцца глыбокіх снягоў.
Ты з пагляда сатры павалоку,
прыхавай, мая мама, слязу,
бо не раз я, напэўна, здалёку
да цябе ўсё сваё прывязу.
Невядомае шчасце ці гора,
за яго гэтым ранкам даруй,
я не знаю, чым годы адораць,
ты не плач, а на лес — пацалуй...

**Цяхцін. Май.**

Прыляцяць белапёрыя птушкі
на забытыя мною лугі,
дзе сцяжын выгінастыя стужкі
ў невядомых напрамках ляглі.

Апране нейкі дзядзька ватоўку,
будзе хлюпаць над кірзай вада,
лёгка ўскіне сваю дубальтоўку,
ах, якая над ім чарада!

Пачакай, не спяшайся са стрэлам,
без таго многа ў свеце бяды!
Пазнаю ў гэтай навісі белай
я свае маладыя гады.

Маладыя, ды горкія ўволю,
чуеш, дзядзька,— крычаць на мяжы,
выпускаю штодзённа на волю
палыновую горыч душы.

Выпускаю, а што ж застаецца?
Вось таму мне і горкіх шкада!
Над лугамі забытымі ўецца
белапёрая чарада.

Птушкі... Птушкі... жадаю разгону,
вам не знаць бы ніколі нуды,
жоўты люцік цвіце пры адхоне,
як і я — малады... малады.

* * *

Сыне, прыадкрый на ўсход фіранку,
чуецца за шыбай гамана,
мо вясёлы госць у нас на ганку,
можа, ў небе плача птушаня.

Ручаіна снег падталы плужыць,
павадкам прасочваецца ў сны,
затуляла я цябе ад сцюжы,
як мяне затуліш ад вясны?!

У яе скупыя абяцанкі,
многа снегу талага сплыло,
словам вечаровай калыханкі
жывіцца, сынок, мае цяпло.

Бессэнсоўна думаць, што са змроку
(ты і верыць, сынку мой, пакінь,
ў тое), што з далёкага Марока
бусел прынясе нам апельсін.

Ні бусла няма, ні апельсіна,
нават пакідае маладосць,
у акне счарнелая галіна,

і далёка наш вясёлы госць.

З хісткага абветранага ганку
не вярнуцца ў страчаныя дні,
але... ўсё-ткі прыадкрый фіранку,
што там... за акном, сынок, зірні.

* * *

Я сабе ні ў чым не спачуваю,
з лёгкаю душою ў свет іду,
хай зязюлі лета адкуваюць,
я сваё і восенню знайду.

Многа неба сіняга над гаем,
а жывеш часцей за ўсё зямлёй,
на яе дарогах адгараеш
зоркаю вышыннаю сваёй.

Непагадзі сэрца не збаіцца,
хоць якому радуюся дню...
Горшы — непрыяцелям сасніцца,
лепшы з іх — сама я адасню.

Не хачу шукаць у стратах жалю,
каб ясней нястрачаным пражыць,
і, як сябра, паважаю хвалю,
тую, што з дажджом мацней шуміць.

* * *

Разлятаюцца птушкі, не чакаючы
верасня
Ну, куды ж вы, крылатыя?
Пачаліся пагодныя дні,
над узмежжам лясным,
над палянамі спелага верасу
пасля дзённае спёкі
разгараюцца ў небе агні.
Мне сягоння самотна,
хоць дазволена з вамі сарвацца
і цяпла не для цела,
для душы не стае...
Ды няма куды больш,
акром гэтых лясоў, мне
вяртацца
і таму не развязваю крылы свае.
І таму ўсё бліжэй да зямлі,
да палян верасовых,
дзе туман адаб'ецца
аблокамі ў сініх вачах,
дзе над кожнай травінкаю
плачуць бяздомныя совы,
плачуць совы,
хаваючы горкія ўсхліпы ў
карчах
Загарчыла...
Усё-ткі бярэцца на восень,
не па-летняму колка
кладзецца пад ногі куп'ё,
разлятаюцца птушкі,—
магчыма, мне толькі здалося,—
мо дарэмна трывожна
забілася сэрца мае?!
Паабапал бярозы стаяць безадказна,
салаўіны бярэзнік
штурмуюць гуртом крумкачы,
разлятаюцца спеўныя...
хто куды... безбаязна,
застаюся, каб гнёзды для іх зберагчы.

* * *

Я з тых жытоў, Я З той зямлі,
што здаўна лічыцца лясною,
дзе ўсе чацвёртыя ляглі
пад пераможнаю вясною.

А я стаю над той вясной,
як перад брацкаю магілай,
зязюлі журацца са мной
аб тых, каму не далічылі...

**ДАБРАНАЧ**

Дабранач, мой звонкагалосы май,
чаромхі белай важкія букеты,
дабранач, малады вясновы гай —
таемны вартавы маёй планеты.

Дабранач, той гарэзлівы хлапчук,
што будзе у вышынях зорных лётаць,
дабранач, стома спрацаваных рук
і Беларусі мройлівая лотаць.

Дабранач, векапомных дзён салдат
і зоры абеліскаў збранзавелых,
дабранач, першы высевак зярнят
і тапалёвы пух над полем белы.

Дабранач, мой каханы чалавек,
няхай цябе у снах тваіх люляе
цяпло мае, адданае павек,
і радасць, што любоўю атуляе.

Крыклівае, дабранач, немаўля,
што з цягам часу стане верным
сынам,
дабранач, партызанская мая
лясная старана пад небам сінім.

* * *

Не па валошкавай мяжы,
не па рамонкавым узмежку,
б'юць па асфальце капяжы,
на жаль, з гадамі ўперамешку.

Далёка мне да сівізны,
і для мяне труна не збіта,
вось толькі б трошкі дабрыні,
каб знаць, што некім не забыта.

Распушаць хутка каташкі
у незабыўнай далі вербы,
ці гэта век такі цяжкі,
што нельга ў ім пражыць без свербу?

Без прагі ўтульнага жытла,
без смагі бліжняга абвесці,
мне б толькі трошачкі святла,
каб там, дзе падаць, не прысесці.

Бяда — баяцца сінякоў,
люблю з дзяцінства вецер рэзкі,
які злятае з бальшакоў,
каб у нізах люляць пралескі...

**Зямля**

Калі адчую некалі нябытам
зямлі глыбокай першародны пах,
няпраўда, што жыцця майго набытак
са мною пераўтворыцца у прах!

Не прагну, не хачу сабе мізэрнай
утульнасці кватэрнай цішыні,
набытак мой — Зямля, тугое зерне,
далёкія сусветныя агні.

Ці не таму мой сын, адмёўшы цацкі,
выказвае нястрыманы дакор,
прыгладзіўшы чубок свой заліхвацкі,
крычыць: «У двор! Пусці мяне у двор!

Мне зразумела гэтая патрэба,
за ўсе зямныя цацкі даражэй
яму краёк прасветленага неба
і той пясок, дзе падае ямчэй.

Далёкі ад жыццёвае раскошы,
аднойчы скажа, беручы рубель,
неведаючы, што такое грошы:
«Зрабі з паперкі гэтай карабель».

А той салдат, які застаўся раннем
ляжаць на спяпялёнай ярыне,

дзеля мяне ахвяраваў дыханнем,
аддаўшы дзень непераражыты мне.

Не за сябе, я за Зямлю ў адказе,
хай нават гучных гімнаў не складу,
але, як той салдат ва ўсякім разе,
я за яе бясстрашна упаду.

Яна — мой скарб, раскоша і набытак,
яна — сады, і неба, і ралля,
і нават дзень, завершаны нябытам,
будзе яна,— глыбокая зямля.

* * *

Як не ашчадны мы да слова!
Яно ж вастрэйшае за нож.
Яго не вымавіш нанова,
прыстане горшае, як смоўж.

Шкада, што мы не маем сіта
на нашых вострых языках,
тады б яно было адліта,
як зерне жыта ў ветраках.

* * *

Пахілы клён убор зялёны скіне,
пажухне за прысадамі трава,
і неўзабаве ляжа белы іней,
з яго не захмялее галава.
Ужо даўно гляджу на ўсё цвяроза,
не бегаю начамі за туман...
Бяссонніцы задумлівая проза —
далёка не чытабельны раман.

Было замнога пошуку, і прагі,
і веры ў дасканаласць тых людзей,
што, як і я, жывуць з адной адвагі,
на раздарожжы смутку і надзей.

Звядзе бяда, удача — раз'яднае,
а сэрца там, дзе хочацца забыць...
Найбольшую з уцех зямных спазнаеш,
каб самае нязначнае любіць.
Хоць тую ж баразёнку ў цені ўкропу,
густое крапівы пякучы плот,
мне часта сніцца таямнічы лопух,
а помніцца задзірысты асот.

У днях маіх няма вялікай драмы,
мінулае — сумленню не ў дакор,
а будучае — тупае ля брамы,
дзе непазбежна скіне клён убор.

* * *

У лясы, у гаі павядзе
вераснёвых начэй калыханка,
на зялёнай азёрнай вадзе
ліст каліны, нібы выразанка.

Не стаміцца б дачасна ў хадзе,
аджалкуе жалобаю восень,
адплыве па глыбокай вадзе,
што хацелася, што не збылося.

Хай жа кветкі ў палях адцвілі,
хай круты пад нагамі пагорак,—
многа спраў у мяне на зямлі,
многа ў небе нягаснучых зорак,

Вераснёваму дню ружавець,
і дажджам лютаваць — справядліва,
трэба ўволю паплакаць умець,
каб умець пасміхацца шчасліва.

* * *

Паверце, тыя, хто згубіў
на светлы дзень надзею ў сэрцы,
хто, прагнучы любві, любіў
па той адной высокай мерцы,
што нам даецца толькі раз,
якую доля выбірае,—
нішто не страчваецца ў нас,
нішто ў душы не адгарае...

О, як аднойчы запяе!
Душа, няхай сабе і зрэдку,
па-веснавому растае
і ў нас саміх ідзе ў разведку,
каб адшукаць той нерв слабы,
што ў нас агнём жывым пульсуе,
нерв неразумны і сляпы,
які закружыць, завальсуе...

Пяе! Душа мая пяе!
Ізноў любві ўзыходзіць зорка...
І мне ў праменнасці яе
чамусьці горача і горка.

## Госць

**1* * ***

Яшчэ на сёння клопат ёсць:
суняць бы неяк грай шпачыны!
А тут насмешка лёсу — госць! —
да адзінокае жанчыны.

Вясёлых спраў паслугачы —
іскрынкі горкія ў наліўцы,
і сэрца трэба ўберагчы,
і штосьці д'ябальскае ў грыўцы.

І запытальны ўзлёт брыва
не хоча з роздумам спрачацца,
у небе поўня, хоць зрывай!
Пры гэткай толькі цалавацца!

Як патрабуе этыкет,
адводжу позірк сарамліва,
жыццё бясконцае ў планет,
і век кароткі — у шчаслівай!

Нямнога шчасця для дваіх! —
не першы дзень жыву з маркоты,
што для яе кароткі міг
расцалаванае гаркоты?!

Я не хачу гуляць з агнём,

я закрываю шторай поўню
і ненавіджу за акном
асалавелую... шпакоўню.

**2. * * ***

Скуль ты такі невыносна адважны?!
Моцна зацягваеш ніць...
Гэта мясціна завецца ў нас Дражняй,
можа, цябе падражніць? —

Голасам ціхім, ласкавым паглядам,
бояззю ранняй тугі,
нам бы на луг, ды яшчэ да калядаў
расстагавалі стагі.

Соладка спяць гарадскія кварталы,
сходы бягуць, як гады...
На астраўках каламутных праталіп
нашае ночы сляды.

**3 * * ***

Золка... Золка, ласкавы мой госцю,
я смяюся, мой голас дрыжыць,
між тваёй і маёй маладосцю
поле белага снегу ляжыць.

На якую чарговую згубу
шоўк завейна абцягвае стан,
не цалуй перасмяглыя губы,
ты душу напачатку дастань.

Знаю, смелым няма пакарання,
піць пачаў — дакаштуйся да дна,
можа, нас ашукае світанне,
ды далёка яшчэ давідна.

Ты паслухай, як дыхае цяжка
нам у твары начны веснавей,
і не вельмі славутая пташка
як апошні пяе салавей.

Там, дзе падаюць,—
сцежку не мосцяць
мне пад ногі не надта сцялі,
без таго твая дужая постаць
нібы бераг жаданай зямлі.

З трапятаннемляснога аленя
затрымайся на строме начы,
пакладзі галаву на калені
і над доляй маёй памаўчы.

**4. * * ***

Бясстрашны, уступай ва ўладу,
даю павечныя правы,
замацаваныя паглядам
скаронай гордай галавы.

Я не шкадую сёння волі,
застыў агонь яе ў вачах,
світальны месяц любіць поле,
ён толькі — ценем у нагах.

Пад гэтай цьмянаю аховай
улады хочацца ўдвая,
я — літасці прашу на словах,
дыханнем гавару — твая...

**5 * * ***

Я лішняга сабе не назапашу,
свайго ў жыцці ніяк не дабяру,
заві, мой госць, гукай у лесе нашу
запознена харошую пару.

Зямлю калыша год невысакосны,
а хочацца мне высака ўзляцець,
хай ноч усю шумяць над намі сосны,
ім сёння ёсць пра што пашапацець.

Ігліцы перасохлае пароша!
Пінжак далей у заараснік пасунь,
мажліва, лес з прытулкам не паможа,
дык дапаможа ў шчасці нам лясун.

Калі ў руках трымаеш яблык спелы,
не думаеш пра сад чужых зямель,
з табой не я была ў вясельна-белым,
а тут... туман, як вэлюмная бель.

Прасі, мой госць, садзі за стол
заручын
крылатых дружак з тых, што
галасней,
бо толькі птушкі голасам сугучны
і сэрцу, і абдымкам, і вясне.

Якім запевам нас яны напояць?!
Але не трэба птушкам многа ўмець,—
я аддаю сваю для песні споведзь,
ім лета будзе мала, каб прапець.

**6. * * ***

Не распытвай. Ты бачыш, што маю.
Я ўспаміны кідаю для тых,
што пяшчотна другіх абдымаюць
і сумуюць па вуснах маіх.

Не шкадую струны абарванай,
густа звоняць пад ветрам драты,
можа, песня мая — адспявана,
а душа захавала матыў.

Апранулі зялёнае вольхі,
я сукенку пад мак падбяру,
не загадваю, госць мой, на колькі,
дастаткова, што зараз гару.

У пунсовым сустрэну світанне,
хоць на колер, ды маю правы!
Нават кніжак няма пра каханне —
век халодным разлікам жывы.

Не хачу, каб дурэлі на шпагах,
і ў геройстве ёсць многа маны,—
не узважвай, мой госцю, на вагах,
знаеш... сэрца не мае цаны.

Не тужы. Раздажджылася трошкі,
ападзе ручаёвая плынь...
За аўсамі распусцяць валошкі
мне ў пасаг сваю ціхую сінь.

**7.** * * *

Не сціхае ў буслянцы
        ўстрывожаны клёкат,
разгайдалася ранне
        на крылах буслоў,
спатыкнецца прамень
        і ўпадзе трапятліва на локаць,
дотык вуснаў праз сон,—
        як працяг недаказаных слоў.

Спі, мой госць, спачывай...
        На рацэ распускаецца лотаць,
як маленькае сонца,
        азірае свае берагі,
колькі ранкаў буслам
        давядзецца над ёю адлётаць,
колькі выпадзе дзён
        мне сустрэць на плячы
дарагім?

Пралятае жыццё
        дзе маною, дзе праўдай,
пачынаецца лета,—
        адчуваю далонню цяпло,
падступае, як прывід,
        дзе да спуду сапраўдна,
над буслянкаю б'ецца
        маладое крыло.

**8.** * * *

Зноў закружыла весялосць,
з акон злятае ноч, як сажа,
не абяцай спакою, госць,
што будзе заўтра — дзень пакажа.

Ды і навошта супакой!
Былі б далоні нашы ў згодзе,
я гавару ў паўшэпт з табой
і ў поўны голас са стагоддзем.

Нішто не спісваю на час,
я да яго жыццём прыкута,

хоцьён няўмольна (і не раз)
са мной разлічваўся — пакутай.

Мне горача... Бярэ разгон
на ўсходзе нітачка ўзыходу,
і ў тым наступным віры дзён
я для сябе не бачу броду.

А ў гэтай сцішанай начы
мне ад уласнай думкі смешна —
што час?! Як часта на плячы
каханым мулка і няўцешна.

**9.** * * *

Па шляхах жыццёвых ходзіць
мноства
розных непрадбачаных нягод,
лепш бы павязацца нам сяброўствам
тым, што не на дзень і не на год.

Палкасць — бліскавічная крывая,
зводня расцугляных навальніц,
голас твой заве і акрыляе —
жаўранкам падранкавым звініць.

З маладосці выбегла на сцежку,—
тут бы супакоена прыстаць!
Госць мой, вераснёвую усмешку
з твару пацалункам не сагнаць.

Верасень... жаданы месяц збору,
над садамі лёгкая імгла,
госць мой, не насі ў вачах дакору —
многа мела — мала данясла.

Абдымі... Хай пачакаюць зімы,
нам няма патрэб прыспешваць час,
палюбі пару маёй радзімы,
што пладамі выспела для нас.

І журбу, і весялосць жалеек,
месяца світальнае святло,
пад якім твой жаўранак шалее,—
быццам яму лета не было.

**10.** * * *

Ты скажы мне, з якога суквецця
сплесці той запаветны вянец,
каб не чуўся у шолахах веццяя
непрытоена сумны канец.

Гаварыла: прыкметам не веру,
разважала: надоўга! — і вось...—
варажу на сцяблінках аеру,
і выходзіць — прысуднае,— госць!

Толькі госць...
На прыход! — Не на годы!

Цяжкім хмелем спаўеш галаву...
З кожным новым тваім адыходам
разумею, што стратай жыву.

Не ўзыходзіць лістота на палі,
жывяць дрэва яго карані,
я баюся — ты толькі абпаліш,
а гарэць не дасі на агні.

Не заву безмяцежнага шчасця,
свет здаўна да гарэння жадзён,
ды калі разгараюцца страсці,
просіць свет супакойлівых дзён.

Не капрыз. Не настрой. Не развага.
Горка сэрца гаворыць з табой,
знаю я, як цалуе адвага,
калі ўпэўнена — выйграе бой.

**11. * * ***

Што прыхопім з сабой? Што забудзем?
Дый няма асаблівых прычын
помніць гэты валошкавы будзень
і густое кустоўе ляшчын.

Маладая зязюля не лічыць,—
маладая зязюля — заве...
Напаслед я хацела б пазычыць
маладога кування ў яе.

Можа, гэта «ку-ку» парукае...
Госць мой, сёння дурманіць багун,
да цябе выбягае другая,
я паглядам таксама бягу.

Вось падкосяцца лёгкія ногі,
замінаюць трава і карчы,
я не знаю больш доўгай дарогі,
я стамілася, дай адпачыць.

Адыдзі... там шаўковыя косы,
чую смех, ён падобны на мой,
разганяю над свежым накосам
камарынае радасці рой.

І шукаю дадому дарогу
карацейшую... можна праз мох...
Не чакала, мой госць, да парогу,
выйшла так... правяла за парог.

* * *

Не дапішаш і не дамалюеш,
бачу след і знаю — не дагнаць,
хай павек забудзе, як цалую,
ён дзеля таго, каб і не знаць.

Каб сярод сяброў не выхваляцца,
пацалунак! — столькі той бяды,
умеючы, няцяжка цалавацца,
цяжка размінуцца пазаўсёды.

Зашчыміць аднойчы нечым даўнім,
хай-ка неба распяе жаўрук,
выпадае часта непапраўным
выбар вуснаў, позіркаў і рук.

Мне б таго, чые ірву паштоўкі,
толькі ж не па мне туды хада,
мне цяжэй дайсці да Камароўкі,
часу ды і ног ужо шкада.

Не дапішаш і не дамалюеш,
а даводжу майскаму хрушчу,
быццам той, хто знае, як цалую,
думае, ці к ручцы дапушчу?..

* * *

Не здавайце, трымайцеся, нервы,
тыдзень, два...— і спякота спадзе.
Чэрвень завязь садовую чэрвіць,
камарыную сходку вядзе.

Непрыкметна прыйшла гадавіна...
Я сустрэчы па пальцах злічу,
а шчаслівая думаць павінна,
што ад сытае ласкі крычу.

На каменныя сходы сталіцы
бэз пялёсткі свае сцерушыў...
Як жа змог ён ізноў запазніцца
на ўрачыстую спеўку душы?!

Ён пад раніцу прыйдзе, няверны,
божы свет мне пачне абяцаць...
Як не сорамна Вам, месяц чэрвень
пры надзеі такой пазяхаць?!

* * *

Ах, нездарма жыла я ганарліўкай,
чакаючы цярпліва твой званок!
Цябе частую леташняй наліўкай
і з дзьмухаўцоў пляту сабе вянок.

Над горадам сваволіць май гуллівы,
я пакланюся зводдаля яму,
а гэты дзень высокі і шчаслівы,
як сонца, над зямлёю уздыму.

* * *

Цяпер бы лашчыць салаўю
садоў далёкія абрысы,
уздыхам, выдыхам лаўлю
гадамі змененыя рысы.
Гарачым шэптам знемажы,
адбіся ў позірку адданым,
мне цяжка вымавіць: «Чужы!»,
і не магу сказаць: «Каханы».

Адное рэчкі берагі,
на ноч з'яднаныя імжою,
не называю дарагім,
баюся — выплыву чужою.
Салёных ростаняў зашмат
на вечаровым небасхіле,
ты, мной аднесены да страт,
сярод знялюбленых і мілых.

Жыцця пакутнага цяжар
не спакушаецца надзеяй,
навошта целу гэты жар,
калі душою халадзею?
Калі з заклятай нематы
бездапаможна даганяю
гады, з якіх гукаеш ты,
а падысці забараняеш.

* * *

Не адчужэнне — лютая нянавісць
за ўсмешкаю няшчыраю тваёй.
Над горадам дажджоў вясновых
навісь,
а я трывожна гавару з зямлёй.

Чаму ў прыродзе поўнае суладдзе —
дажджы абудзяць першае лісцё...
А чалавек жыве, жыве ў разладзе
з тым, хто гатоў ахвяраваць
жыццём.

* * *

І лістоце апалай няўлежна,
з ночы просіцца ў расцяроб,
як спакойна, як незалежна
ён цалуе не ў губы — у лоб!

І не верыць ніводнаму слову,
з анямелаю ходзіць душой,
быццам тут аднялі ў яго мову
і ніяк не навучаць чужой.

І ў мяне дастаткова пагарды,
не хілю перад ім галавы,
у яго я і слова не варта,
а не знае, што мною жывы.

* * *

Пасядзім, мой даўні дружа,
хай сыграе нам ражок,
пад які чужога мужа
не бяруць на ланцужок.

Я на досвітку замглёным
сыплю проса галубам,
мной на шчасце благаслаўлёны,
добрай долі зычу вам!

Без маёй журбы-спагады,
пэўна ж, ходзіцца лягчэй!
Вы, здаецца, нават рады
халадку маіх вачэй.

Што ж за дзіўнае пытанне:
у каноплі з кім хаджу?..
Я пасля… пры развітанні
вам у поцемках скажу!

* * *

Не суцешаць ніякія словы
там, дзе кошкай нудота скрабе,
пачынаюцца кнігі з прадмовы,
а мая адзінота — з цябе.

Сатанее з нявылітай млосці
разгустая паводка травы,
завязалася завязь любосці,—
развязалася пашчай дрыгвы.

Што ні дзень, дык на дзіва пагожы,
стараной праляцеў градабой,
многа ёсць маладых і прыгожых,
што ж пакутую ў згубу табой?!

Не прыманьваю зыркасцю брошак,
дастаткова ў паглядзе святла,
і душа выліваецца ў пошчак,
ад якога згараю датла.

І, здаецца, няма вінаватых,
і не здраджвалі, быццам, ні ў чым…
Толькі цяжка вяртацца да хаты,
толькі страшна адной уначы.

Дзе ты? З кім ты? Хіба не ўсё роўна.
Курыш многа? Смакуеш віно?

Выплывае з аблокаў спакойна
маладзік і глядзіць у акно.

Да шаленства тупы, выгінасты,
немагчыма пры гэткім абняць!
Дык не біся ты, сэрца, так часта...
Трэба класціся спаць...
Трэба спаць!

* * *

Зялёнай шторкі халадок,
ну, чым не засень дрэў?
Я знаю, ў лес ты не хадок;
чаму ж са мной прысеў?

Тут стан упоравень сасне,
а рукі, як лаза...
Калі прылашчаць — не заснеш,
гарачыня — ляза.

Тут вельмі лёгка заблукаць,
дыван, нібы імхі...
Хто сам знясіліўся гукаць,—
да голасу глухі.

Крычы ў пракураную столь,
малі і падай ніц...
Адгаласіў даўно мой боль
ударамі званніц.

Пусты і чысты далягляд...
О, не прасі пакут,
бо, што калі і твой пагляд
заінеецца тут?!

* * *

Шчасліваму і гора дапаможа,
ды ўсё часцей жыццёвы калаўрот
бязлітасна заве у падарожжа
да адзіноты, смутку і згрызот.

Жыву, нібыта долі сваёй вырак,
самотна вочы сінія глядзяць,
і толькі думкі ў невядомы вырай,
нібы лісткі апалыя, ляцяць.

* * *

Не спатрэбяцца лёгкія вёслы,
далягляд над ракой адгарыць,
як жа цяжка бывае дарослым
толькі позіркамі гаварыць.
Рыбакі пасля добрага ўлову
пад сасною вядуць гаману,
не прасі запаветнага слова,
я ўсё роўна цябе падману.
Сцежка вузкая. Позірк глыбокі.
За ракою шумяць чараты.
Толькі надта ж той бераг далёкі,
ну, а гэты занадта круты.
Не для ўцехі цвітуць адвячоркі! —
Будзеш з іншымі словам лаўчыць,
нас не грэюць высокія зоркі,—
і душа безнадзейна маўчыць.
Праўдзі напрасткі за развілку,
тут залішне выразны абрыў,
я, магчыма, прыму за памылку
калі-небудзь і гэты разрыў.
У жыцці недалётаў даволі,
можа, долі сваёй не ўлаўлю,
не схачу разняволенай волі
і ў сабе успамін палюблю.
Стане позірк, як зараз, глыбокім
і праз зараснік лесу густы
уваткнецца у бераг далёкі,
абрываючы бераг круты...

* * *

Адшумела язмінная кіпень,
адаспела пакоша ў садах,
дык навошта іграе мне ліпень
у густых шапаткіх чаратах?!

І пагляду ад гукаў мурожна,
і ў руках маіх чуецца хмель,
і вядзе мяне ноч асцярожна
за туманную золкую бель.

Можа, сэрца пацешу ў прыгодзе,
чарадзейную вымну траву,
маладыя гады адыходзяць,
дык навошта я з песні жыву?!

Прад сабой пазіраю здзіўлёна,
дзе няшчасце і шчасце — ў раскос!
А з-пад ног выбягае зялёны,
як няўлоўная доля, пакос.

Дык чаму ж я з адвагай начніцы
разам з ліпенем млею ў лугах?!
Мне не трэба ніякай сініцы,
пакуль чуецца хмель у руках.

* * *

Ластаўкі сядзяць напагатове,
крок неасцярожны і... зляцяць.
Сэнс таемны чую ў кожным слове
і баюся позірк свой падняць.

Аддае бульбоўнікам зляжалым
(трэба ж нечым полю прывячаць),
як неўтаймавана лёгкі шалік
зноў ірвецца да твайго пляча.

Я на смеласць гэтую злуюся,
шалік свой зацягваю мацней,
ластавачак спудзіць не баюся,
а за сэрца стала страшна мне.

* * *

Ля крыніцы бруістае вяне
абранёны на шчасце вянок,
тут калісь палявалі славяне
на чужых даўганогіх жанок.

Паўтараецца многае ў свеце,
на палянцы распалім касцёр,
і заблудзіцца месяц у веццi,
як лязо агнявое, васцёр.
У тваім сінявокім абліччы
я славянскія рысы знайду,
стань жа сёння маім паляўнічым
я сама пад руку пападу.

І ад радасці хмельнае грузны,
абмінаючы дрэвы і пні,
прыпадзі да распаленых вуснаў
і ў высокія травы шпурні.

Закрычы па-дзікунску штосілы,
абрываючы сукню з пляча,
каб сарвалася дрогкае: «Мілы-ы»
і хіснулася неба ў вачах.
Каб на самым абрыве палянкі,
дзе ў калена густая трава,
ўпадабала я лёс паланянкі
і надломы крутога брыва.

* * *

У тваіх блукае валасах
месяц, а ў вачах блішчыць рыжынка,
мне ж бацькамі дадзена ў пасаг,
на ўсялякі выпадак, смяшынка.

Я гадзіны гэтыя люблю,
справа не абы ў мяне якая,
месячык, старанная, лаўлю,
рукі маладыя апякаю.

Затрашчыць уночы лёдастаў,
валасы твае мякчэй за кужаль,
ты яшчэ і сябрам мне не стаў,
а гаворыш: будзеш добрым мужам.

Ды чаго не скажа маладосць!
Да акна прыбілася сняжынка,
і чамусьці добра знаць, што ёсць,
на ўсялякі выпадак, смяшынка.

* * *

Не прашу ні ў кога вернасці,
бо сама не без віны,
адпушчу цябе без рэўнасці
за далёкія млыны.

Позірк светлы не засмуціцца,
не складу ў жалобе рук,
а зямля мацней закруціцца
пад няроўны сэрца стук.

З хаты выбегу, здзіўлёная,
паглядзець на кругаверць,
скажуць людзі: «Улюбёная,
а ідзе, нібы на смерць!»

* * *

Адгукнуўся смуткам шолах
сакавітых летніх траў,
у душы гуляе сполах
абяцаных мне забаў.
Не гляджу цяпер з тугою,
як бывала, ў цёмны кут,
падзяліла лёс з другою,
падзялю і боль пакут.
Не паверу, што шчаслівы
ты ў агні яе начэй,
зноў сустрэўшы палахлівы
позірк сцішаных вачэй.

* * *

Датлее ў ночы вугалёк,
гаркавы дым сплыве з пагорка,
ты — мой святлісты матылёк,
мая нягаснучая зорка.
Пагоркам пройдуць пастухі
шукаць загубленае лета,
ты — мой штодзённы боль глухі,
мая далёкая планета.

Зарою зоймецца краёк
здаўна знаёмае лагчыны,
даюць нам вернасці зарок
і не вяртаюцца мужчыны.
А мы глядзім у тую даль,
у тыя золкія світанні,
дзе нараджае ў сэрцы жаль
надзею ў новыя спатканні.

А мы чакаем праз дажджы,
праз снегапады і завеі,
і веснавыя капяжы
б'юць па няспраўджанай надзеі.
А мы крычым услед здалёк
і пасміхаемся няёмка:
куды ляціш, мой матылёк?
Каму спяваеш, мой салоўка?

* * *

Як на допыце, кожнаю рыскай маўчу.
Не прыспешвай, душа, асцярожна,
я крывёю з-пад самага сэрца плачу,
тут ніяк памыліцца няможна.

Што ж ты, мілы мой ясень, трывожна
шуміш,
невясёлая будзе вандроўка.
Я пакутна іду, як загнаная мыш
у куток, дзе стаіць мышалоўка.

Не пайшла б! Але ўспомню... і падаю
ніц,—
як засады варожае выбух!
Ясень... Ясень... магчыма, і ты ад
крыніц
на пагорак ад гэтага ж выбег.

Супыні! Прашумі мне: «Сястра,
адпачні»,
ты ж маёй адзіноты — сааўтар!
Я баюся... баюся сустрэцца з вачмі,
каб не страціць іх, ясень мой, заўтра.

* * *

Гэтаму вечару быць усё роўна.
Схлыне туга мімаходзь.
Толькі ж калі быў абраны князёўнай,
як да князёўны заходзь.

З годнасцю ёй адпаведнай вініся,
што ж ты стаіш — дагадзі...
Сотню разоў перад ёй пакланіся,
у сто першы — да ног упадзі.

Звысака лёгка даюцца загады,
пальцы халодзяць ключы...
Сёння ля сцежак садзіла расаду,
будзеш ісці — не стапчы!

* * *

Не цалаваць, не думаць, не чакаць,
Хадзіць у госці да сяброўкі зранку.
З усмешкаю знаёмых сустракаць
і слухаць дрэў азяблых калыханку.

Прыміранае часам пачуццё!
Куды толькі мяне яно не гнала,
яно, як боль тупы праз забыццё,
з агню ў агонь бязлітасна кідала.
Жанчына! Маці! Сталы мой узрост,—
вытрэбваюць нямала абавязкаў,
як паліто ў дзяцінстве навырост,
мне выпала на міг кароткі ласка.
Я вырасла з яе і адышла,—
трохкутніка класічная развязка!
Не зразумела толькі, як магла
загразнуць, дзе, здавалася, нягразка!

Каханы... Сябра... Карацей — чужы!
Мароз узоры зноў на шыбах вяжа.
У полі вецер лёгкі адкружыў
і заўтра ля пад'езда снегам ляжа.

Закоўзаюцца дзеці... і мой сын
па гэтым снезе пройдзе з асцярогай,
зімовая, да лому ў скронях стынь,
гарачая да наледзі трывога.

* * *

Яшчэ захоўваюць сукенкі
цяпло нядаўна мілых рук,
яшчэ гараць начамі зрэнкі
агнём нявыплаканых мук.

Яшчэ бяссонне з хаты гоніць
ад горкай думкі аднае:
мяне нічым ён не палоніць,
а лёгка дыхаць не дае.

* * *

Пад соннай ёлкі калыханне,
пад навагодні лёгкі вальс,
дзеля бясконцага чакання
я адмаўляюся ад вас.

Пайду дарогай снегавою
на мроях шчасця варажыць,
каб вам з жанчынаю другою
аб лёгкай страце не тужыць.

Якой надзеяй сэрца песціць?!
На кожнай здрадзе свой закон,
а без закону — толькі песні
душою пішуцца спакон.

* * *

Поле з восені, як паголена,
мне хадзіць туды — не дазволена.

Павяду вачмі, як рубель знайду,
адвяду пагляд і ў нуду ўпаду.

Столькі той нуды! Там адно — сляды...
Ды дарогі мне больш няма туды.

## З размоў вясёлай удавы

«...Хіба што да Паўліны зайдзіце,
яна многа чаго расказаць можа».
В. Зарэчча, 1979 г.

**1.** * * *

Ты навошта мне прыносіш
шоўку белага адрэз,
ну, хіба зіму упросіш —
не цвіце зімою бэз.

На адлёце маладосці
птушкай восеньскай свішчу,
папрасіся толькі ў госці —
нават чорта не ўпушчу.

Гэты позірк мне знаёмы,
гэта памяць да вугла:
мне ад іх акон праёмы
занавесіла імгла.

Замятае снег калючы
сцежкі ўдовінае зрэз,
лепей скінуў бы ты з кручы
шоўку белага адрэз.

Выпрабоўваць лёс не трэба,
падарунак забяры,

нада мной пасекла неба
злая доля без пары.

Ды, напэўна, з ласкі маю
расцвіце вясною бэз...
Уздыхну і прыгадаю
шоўку белага адрэз.

**2. * * ***

Сінявокі май галубіцца,
млявы золак п'е нагбом,
за туманамі заблудзіцца
малады вясновы гром.

Пакахаю Васю-мельніка,
будзе жорны ён крудзіць,
за сцяной густога ельніка
мілай пацеркі дарыць.

Зацвіце чабор аброшаны,
задурманіць галаву,
Вася свой пінжак паношаны
кіне ў шызую траву.

Баю-баю, мая гусанька,
на плячы маім засні...
І сама ты маладзюсенька,
і гарыш, нібы ў агні.

А назаўтра пройдзе мацерка
па узмежку тым з казой,
ой, чыя ж тут,— скажа,— пацерка
прарасла за ноч слязой.

**3 * * ***

Я чужых не абдымаю,
ты ідзі дадому,
у руках вясло трымаю —
хваля здыме ўтому.

Па вясне завяла гронка
бэзу каля хаты,
не каханка, і не жонка,
хто ў тым вінаваты?!

Па ўсяму відаць, з узростам
памяць усыхае...
Мо яшчэ й цяпер пад мостам
цень мой замірае.

Ой, гады, мае гадочкі
(вось і век Паўлінін),
абляцелі, як лісточкі
з маладой каліны.

Як жа мне цяпер гукаці
лецейка у хату?
Як жа мне з табой стаяці

любым, ды жанатым?..

**4** * * *
Параслі на тым гародзе
бульба ды часнок,
ты ў далёкае Заброддзе
не хадзі, сынок.
Там гародніна даецца
хоць каму ды ў дар,
там ніколі не злуецца
добры гаспадар.
Госцю кожнаму ён рады,
ветлівы заўжды,
толькі ж тыя, тыя грады
блізка ад бяды.
Я туды пайшла аднойчы,—
не ўзяла часнок,
а туга заслала вочы
наўсягды, сынок.

**5** * * *
Ох, шчаслівыя выпадкі!
Цёмнай ночкай выйду ў сад,
пад нагой хрумсцяць ападкі,
на парозе — лістапад.

Ты не йдзі за мною следам,
наўздагон не лезь праз дрот,
перакінься словам з дзедам,
што, як стражнік, ля варот.

А пасля счакай ля хаты,
дзед, напэўна, кіне пост,
многа ў нашым садзе мяты,
і дарожанька — наўпрост.

Прыхаваю яблык спелы
і з травы саб'ю расу,
калі ты такі нясмелы,
распляту сама касу.

Колькі мяты мы патопчам,
колькі водару ўдыхнём,
пад старою грушай, хлопча,
на світанку адпачнём.

Божа крый, не ўладзіш з дзедам,
не адыдзе ад варот...
У выпадку гэтым следам
у абход ідзі, праз дрот.

**6.** * * *
Тлее ўзыходам імгла,
пахне звячор караваем,
я паўжыцця пражыла,
як дажываць — не знаю.

Выспеліў яблыкі спас,

бязі прывезлі ў краму,
людцы, у позні час
стукае нехта ў браму.

Тлумны народ шафярня,
гэты не нішто... сур'ёзны!
Кажа, калі б каня,—
дроў бы табе прывёз бы.

От, не ў ладах з лесніком,
торфам палю я ў печы,
цягне з дзвярэй скразняком,
коўдру цягну на плечы.

Выйду ў шырокі двор,
ногі абмыю ў тумане,
менее ў небе зор,
хутка начлежнік устане.

Скажа, вады прынясі,
Тузіку весела свісне,
тоўстыя ў рэчцы язі
тлустымі спінамі бліснуць.

Сядзе ў здарожаны «ЗІЛ»,
з двара зухавата ад'едзе,
густа кладзецца пыл,
чыхаюць доўга суседзі.

**7.** * * *

Трэба знесці: хныч — не хныч! —
Груд бульбоўніку.
Кажуць бабы: «Ты пакліч
палюбоўніка».

І пайшла я за сяло,
разгукалася...
Толькі рэха весяло
разгулялася.

Упляталася ў быльнёг,
гнула вецце...
Прыляцеў і лёг да ног —
вецер.

**8.** * * *

Ты супакой маю ночку, Зарэчча,
смутак над хатай маёй разгані,
соладка пахне да верасня грэчкай,
водарам поля у вокны дыхні.

Я расчыню іх шырока, шырока,
крыкне трывожна пугач за ракой,
груша старая па-свойску са змроку,
нібы з сястрой, пагамоніць са мной.

Што нам пугач? Мы ў гады пагукаем,
згадку вясёлую з іх прынясем,

зорка ласкавая ўзыдзе над гаем
і забуркоча галубка ў страсе.

Для супакою патрэбна нямнога,
сох бы ў жанчыны на прыпечку гляк,
бегла б удалеч праз жыта дарога,
стрэўся б на ёй сінявокі зямляк.

Жыць бы і мне з гэтай простай
навукі,
бабаю першай як ёсць баляваць,
ох, не ад стомы пад ноч мае рукі
так, што не спіцца, ныюць, баляць.

Рукі і гляк... Гэта ўсё недарэчна,
сілы жывое многа ў руцэ...
Вёска мая, як жа соладка грэчка
мне на журбу ў тваім полі цвіце!

* * *

Яшчэ не ўзяліся травою лугі,
зямля для травы не ўзагрэта,
з пагоркаў павольна сплываюць снягі,
і. ў кожнай праталіне — лета.

Яшчэ не аблашчыла дрэвы цяпло,
не хочацца думаць пра гэта...
О, як абагрэе спякота галлё! —
наперадзе — доўгае лета.

Яшчэ салаўі не пяюць, а не сплю,
і я не хаваю сакрэта,
я вуснамі палкія вусны лаўлю,
цалуе — гарачае лета.

Лясныя паляны — мае адрасы!
Не трэба вялікага свету!
На сцежках паблісквающь кроплі
расы,
і ў кожнай расінцы — па лету!

І чуецца водар ліпнёвы наўкол
і пах залатога ранета...
Шыпшына пялёсткі страсае на дол —
такое кароткае лета!

## На балконе

На балконе адвячоркам
кветкі ўвішна я палю,
як узыдзе ў небе зорка,
я слязою іх палью.
Ты, сусед, не пасміхайся,
не багата ў нас выгод,
маёй хаты не цурайся,
паглядзі,— які гарод!
Хоць і кветкі, а расліна,
зацвілі, нібыта мак,
я табе сказаць павінна,
ты, сусед, усё ж дзівак!
Я цябе рукою гнуткай,
як лазою, абаўю,
дык заходзь, сусед, я хутка
свае кветкі дапалю.
Хоць і ведаю, што хтосьці
будзе ўнізе ноч стаяць
і каменьчыкі са злосці
у гарод у мой кідаць.
Не баюся, хай кідае,
не было б другіх нягод!
Пэўна, нехта забывае,
што высока мой гарод!

* * *

Пад перастук сталёвай рэйкі,
пад звон апошняга трамвая,
сцяна пад колер канарэйкі
мне сон салодкі навявае.

І позіркам, і сэрцам рада
твайму нязвыкламу прыходу,
бо салаўінаю руладай
ноч разліваецца ва ўгоду
маім трывогам і на згубу
вядзе таемнасцю сваёю,
і толькі шэпчуць, шэпчуць губы
я не магла не быць тваёю,
бо гэту ноч мне даравала
душы цярплівае чаканне,
учора цень твой цалавала,
а сёння слухаю дыханне.

## **Вясёлы лістапад**

Вясёлы лістапад.
Сяджу — не варухнуся.
Кляновы ліст, як зорка
апалая, мільгне,
вясёлы лістапад,
прызнацца, я баюся,
што без тваёй пяшчоты
балюча будзе мне.

Вясёлы лістапад!
Нібы завея ў лютым
у срэбныя фанфары
б'е з кожным днём званчэй...
Вясёлы лістапад
раз'ятраным салютам
ударыў па каханні
рабінавых начэй.

Вясёлы лістапад.
Адкуль такая замець?
Уздрыгваю знянацку,
тулюся да акна,
вясёлы лістапад
дару табе на памяць,
бо што мне з лістападу,
калі я зноў адна.

* * *

У гушчары пануры дзік,
няўтульна там яму!
Святкуе ў небе маладзік
пушыстую зіму.
Ён выгінаецца дугой,
аж весела глядзець!
Я ведаю, што ты з другой,—
нам разам не сядзець.

Рыпяць ільдзінкі пад нагой,
спынюся на рагу...
Зжылася, зладзіла з тугой,
цяпер усё змагу.
Стрымаю з лёгкасцю уздых,
прывечу вераб'я
і назаву здаля дваіх —
адзінкавым — сям'я.

Прыму распушаны сняжок
за белую муку,
і ліст каляны, як сцяжок,
вазьму ў сваю руку.

І нейкі школьнік мне услед
параіць на хаду:
«Ты слёзы выцеры як след,
не думай пра бяду...»

* * *

Хай будзе так, як ты схацеў,
тваё жаданне не парушу,
вядзе душа ласкавы спеў,
а я маўчаць яе прымушу.
Раздам прахожым рэшту слоў
я сваёй шчырасці няёмкай,
праз чараду тваіх гадоў
прайду маўклівай незнаёмкай,

Глыбока ў сэрцы пралягла
тваёй адчужанасці рыска,
чаго шукала — не знайшла,
у блізкасці была няблізкай.
Суніме час пачуццяў вір,
пяроймуць смутак мой бярозы,
бо ім прасцей кідаць у жвір
з лісця расы начное слёзы.

І адплыве ў далёкі свет
усё, што сёння ў сэрцы маю,
мне не шкада губляць твой след,
я маладосць з табой губляю.
А недзе там, дзе далягляд
на лета чыніцца грамамі,
былое рынецца назад
і захлынецца паміж намі.

## Навальнічнай ноччу

І ўсё ж нашу я ў сэрцы спадзяванне,
што вернецца да берага паром,
таму не наракаю на расстанне,
спакойная ўслухоўваюся ў гром,
бо ведаю: і той, другой, не спіцца,
і бліскавіца ў тым акне ярчэй,
дык хай яна баіцца памыліцца —
у тых агнях агонь маіх начэй...

* * *

Мне ліпень прынясе з-пад Брэста
пары юначай успамін,
начныя шолахі агрэста
і пошум досвітны рабін.

З таго далёкага паўстанку,
з тае няблізкае вярсты,
ноч перакіне на світанку
радзіннай сувязі масты.

Магу з рабінай параўнацца,
як з верным сябрам у жыцці,
ёй век у пошуме гайдацца,
а мне — у пошуку ісці.

Шукаць забытыя сцяжыны,
вяртацца на сутык дарог,
дзе пераспелыя ажыны
ажыннік для мяне збярог.

У вокны зоры прагна свецяць —
любві нястрачанай агонь,
і першы ліст злятае з веццяя —
лістом з юнацтва на далонь.

* * *

Дзе кружылі мае жураўлі,
бесспрытульна плывуць аблачыны,
невыразныя цені ляглі
пад акном з надта простай прычыны.
Гэта верасень блытае зноў
са спякотаю мокрую навісь,
бо калі адыходзіць любоў,
прачынаецца злая нянавісць.
Не адношу сябе да святых,
толькі як заставацца сябрамі,
калі тысячы вёрстаў зямных
пралягло ў адзін момант між намі,
Што вы ведаеце пра страсць,
пра душу, расхінутую насцеж,
хай вам жонка адданая дасць
найсалодкае звонкае шчасце.
Увап'юцца ў акно вастрыём
касякі мудрагелістых кропель,
там, дзе білася сэрца маё,
ў перасып праганяецца попел.
Немаведама нават за што
ноч бяссоннем пранізлівым пыжыць,
ёй гарэць ці калець ўсё адно,
як жа мне ў гэтым холадзе выжыць?!
Пераходжу на здзеклівы лад,
трэба ж восені золлю адкрапаць,
і здаецца спакойным пагляд,
і чамусьці баюся заплакаць.

* * *

Падступаецца даўка да горла
каламутнае кола святла,
колькі дзён маіх марна пагоркла,
а начэй адгарэла датла.

Дай руку... працягні пажыццёва,
я ў агонь твой свой попел аддам,
для цябе зберажонае слова
на складах дакляруую гадам.

* * *

На паветры пакутуюць рыбы,
без вады засыхае глеба,
успамінаў варочаю глыбы,
іх хапіла б падперці неба.

Вецер тоненька плача ў садзе,
а бывала, смяяўся ў полі,
ён таксама паверыў здрадзе
і скавыча цяпер ад болю.

Набівае той плач аскому,
недалёка ад новай звады,
я, напэўна, камусьці другому
перакіну пакуту здрады.

Адвярну, прыручу, зачарую,
пазайздросціш засохлай глебе,
колькі схочацца мне, пашчыруую
у душы тваёй,— як у небе.

І аднойчы без важкай прычыны
адыду і пакіну глыбак
(як дадатак шчаслівай жанчыне),
след у сэрцы і памяці глыбы.

* * *

Іду туды, дзе луг духмяны,
дзе ў сініх рэках — невады,
шукаць твае сляды, каханы,
пакінутыя на гады.

Паходкай лёгкай, лебядзінай
тапчу сухую асаку,
на ўсё жыццё мае адзіны
ты быў і ў сэрцы, і ў радку.

* * *

Падобны голас мой на ўсхліп
пакрыўджанай дзяўчынкі,
над снежаньскім спакоем ліп
сваволяць аблачынкі.
Смяюцца дзеці на двары,
а сэрца маё плача,
яшчэ ж учора гаварыў,
што я твая удача.
А сёння тоненькім ільдом
ты не прыйшоў па следу,
хоць і казаў: у гэты дом
і мёртвы я прыеду.
Я не сумую, бо крадком
падслухала аднойчы:
паэты лечацца радком
і паміраюць двойчы.
Хоць і дрыжыць мая рука,
і сэрца спапялёна,
але мелодыя радка
разлукай не замглёна.
Няхай сто тысяч раз памру,
і зноўку уваскрэсну,
і ведаю: усё таму,
каб слухаў маю песню.
Каб толькі ёй адною жыў,
не называў праклёнам,
і ўсё жыццё сваё тужыў
па мне, як ліст па клёну.

## Восенню ў Маскве

Агорне Зубаўскі бульвар начная ціша,
вясёлы месяц так, за будзь здароў!
Сабе на памяць мой маршрут запіша
і нават выдасць вексель на любоў.

Кальцо Садовае, як пікавая дама,
Е не зглeдзішся — падманам абвядзе,
але чаму стаіць вунь там ля брамы
дзяўчо-надзея, лепшая ў бядзе.

За тым акном, за тонкаю фіранкай
знаёмы профіль бачыцца здалёк,
я параўнаю гэту ноч з заранкай,
ў агні якой згарае матылёк.

Ты паўстаеш праз шкло, нібы з
туману,
чаму ж тады рабінаю гару?!
Я сёння месяц для цябе дастану,
а можа, нават неба падару.

Каб нада мной плылі твае аблокі,
як журавы плывуць на схіле дня,
лаўлю іх крык, а ты такі далёкі,
і над Кальцом Садовым цішыня.

* * *

Даруй і дзякуй! Вольная цяпер.
Ужо непадуладная нікому,
праз адзіноту, смутак і знявер
вяртаюся шчаслівая дадому.

Даруй за недазволены агонь,
за боль і безнадзейнае: кахаю...
Мо ад таго бунтуе радасць скронь,
што сёння толькі вецер абдымаю.

Я дзякую табе за смех ў бядзе,
за пачуцця і думак першароднасць,
дык хай жа мой радок цябе вядзе
ад позірку майго — у бессмяротнасць.

* * *

Лета вяртацца не ўмее
на межы свае ізноў,
сэрца мае сталее —
доўга не носіць рубцоў.

Сяду ў парозе, як некалі,
вецер абвее твар,
быццам купцы праехалі
ды зганьбавалі тавар.

Хмары ідуць абложна,
мне думалася спярша,
не зашчыміць трывожна,
сцерпіць разлуку душа.

Што ж гэта ў свеце дзеецца,—
доўга няма маразоў!
Хочацца мне абнадзеіцца —
вернецца лета ізноў.

* * *

Твая жонка на ганачку,
а цешча ў парозе,
я ж спяваю «цыганачку»
да цябе ў дарозе.

Абміну я тваю жонку,
абміну і хату,
падміргну табе з падворку
і паклічу ў мяту.

Будуць росы абліваці
жарам, а не цнотай,
ах, як буду цалаваці
я чужога ўпотай.

Звяне мята маладзенька,
пройдземся мяжою,
ах, як ночка караценька
з жонкаю чужою.

Будзеш жонцы дарыць кужаль,
помніць паланянку,
а я буду спяваць мужу
песні пра каханку.

* * *

Мне невядома пакута.
Мне вельмі прыемна з палёгкай
выдыхаць бесклапотна з лёгкіх,
што я да яе не прыкута.

Стаю на далёкім прыпынку
гадзінамі без спачыну
і гавару, гавару свайму сыну:
«Дай аддыхацца, сынку...»

## Дзічка

Ці не вецер там парушыў
сон салодкі на дасвецці,
маладое дзікай грушы
разгайдаў у шале вецце.
Вецер з грушаю гамоніць,
вецер грушу забаўляе,
а яна лісток аброніць
і ад ласкі замірае.
Са старое, даўняй звычкі
заварочваю прывыкла
я да той вясёлай дзічкі,
а яна ў журбе панікла.
Са спагадаю да гора
дакранаешся і... коле,
не таму, што дзікі нораў,
а хутчэй за ўсё ад болю.
Па чужым, далёкім полі
вецер шастае гуллівы,
мо вярбе, а мо таполі
навявае сон шчаслівы.
Незайздроснай долі знічка
ў цёмным небе адгарае,
а пры шляху плача дзічка,
горкі плод у пыл страсае.

## Слуцкая шаша

Не спяшайце, шафёры,
праехаць знаёмым маршрутам,
пачытайце газету
на прыпынках далёкіх з нуды,
я да гэтага месца,
канечне ж, нічым не прыкута,
але вы пачакайце...
Мае не сцірайце сляды!
Тут нядаўна шумела
на адхонах суквецце
траў збуялых і кветак,
што туманяць з налёту пагляд,
многа сцежак маіх
пралягае на шчасце па свеце,
ну, а гэта шаша —
мой, на горкі ўспамін,
далягляд.

Засталася ўва мне
неашчаднае ласкі пазыка,
з кім цяпер разлічыцца,
даверыць каму неспакой?!
Вунь за той павароткай
чаруе нябачны музыка
і шуміць, і трапеча
лістота ў яго пад рукой.
Западаюць у сэрца
трывожнаю музыкай ноты,
мне нідзе паратунку
ад гэтага шалу няма,
я знямогла маўчу,
баючыся сказаць яму: «Хто ты?!»,
каб, выпадкам, не ўчуць
забароненай згадкі імя.
Праплываюць слупы...
Праплываюць гароды...
За каўнер ападае
дажджавая імжа...
Як правесці цябе,
хоць пункцірам праз годы,
праляцелая ў восеньскі вырай
шаша?!

## Серабранка

З якое шчодрай самабранкі,
з якой вясны, з якога лета
плыве па вулках Серабранкі
духмяны водар першацвета?
Не пабаюся, што захмеліць
ускрай былое лугавіны,
яшчэ хачу бяздумна верыць
няхай сабе і ва ўспаміны.

Лічу жыццё сваё звычайным:
сякуць дажджы, і спёка морыць,
навошта ж ластаўка адчайна
не-не ды песняю адорыць.
Тады стаю за паваротам,
ліст зелянцовы абрываю
і ад сябе самое ўпотай
кагось далёкага чакаю.

Няўжо не ўспомніць тыя ранкі,
няўжо забыўся ён на лета,
дзе гэтаксама Серабранкай
плыў хмельны водар першацвета
Як разышліся — не згадаю,
іду штолета на сустрэчу,
і, як тады, лісток зрываю,
і, як пасля, яго камечу.

## Салоўка

Мае вясёлыя сяброўкі,
бярозы ў кропельках дажджын,
раскалыхалі ноч салоўкі,
і асабліва з іх адзін.
Ён з пераборам, ён знянацку,
як не дабудзіцца каго,
пра салаўя расказваў бацька,
дык гэта, пэўна, пра яго!

Ён, не шкадуючы, загубіць,
ён лес да хрусту скалане,
той самы лес, што бацька любіць,
да болю любіць, як мяне.
Плыве нізінаю балотны
туман цягучы, бы смала,
той салавей, як я, залётны,
і без сям'і, і без жытла.

Здаўна, прывучаны да волі,
гнязда свайго не сцеражэ,
ён сёння тут, а заўтра ў полі,
у травы пошчак упражэ.
Не абміне пагорак коўзкі,
пылок з трыпутніка страсе,
і да танклявае бярозкі
плач адзіноты прынясе.

* * *

Адплывуць за пясчаную выспу
адгарэлага лета дымы,
я цябе адзінотаю высню,
ты мяне напаслед абдымі.
Ноч агнямі ў акне адміргае,
прымуць новыя нас берагі,
за мяне дакахае другая,
за цябе дацалуе другі.

Валасоў маіх ніць залатая
ападзе на гарачую скронь,
не трымаю! Няхай адлятае
неразумнага сэрца агонь.
На галінах ад ветру каляных
захлынаецца лісце ў журбе,
у імя несустрэтых каханых
я аднойчы забуду цябе.

Там, дзе верасень пройдзе ўрадлівы,
дзе крынічны заб'ецца выток,
упадзе на зямлю сіратлівы
адгарэлага лета лісток.
І нішто не ўстрывожыць з гадамі,
не ўсхвалюе чаканым званком,
за цябе адсумую радкамі,
за сябе абляцелым лістком.

**Першае верасня**

Бяруцца скупа жоўтым кроны,
сумуе восеньская медзь.
Ён думаў, сэрцу забароніць
аб ім жывую памяць мець.

Я сапраўды нямнога помню,
знаходжу ў справах супакой,
бяжыць па тоненькаму промню
пачатак верасня ў пакой.

З ахвотай школьнік занатуе
на ўроку летнюю пару,
і што было, пра што шкадуе
даверыць сшытку і пяру.

Мне не стае яго старання,
і пачынаю разумець:
не трэба сшыткаў для падання,
дзе можна памяццю гарэць.

## Змест

**2**

**Баравікова Р.**

Такое кароткае лета: Лірыка.— Мн.: Маст, літ., 1981.— 111 с. 45 к.

«Такое кароткае лета» — трэцяя кніга вершаў Раісы Баравіковай. Яе склалі вершы апошняга часу. Кніга складаецца з двух раздзелаў. У першым — роздум лірычнай гераіні пра час, пра чалавечы абавязак перад Радзімай, сваім народам. У другім — доля жанчыны, пошук чалавечага шчасця, уменне распарадзіцца ім. Сюды ўвайшлі вершы інтымна-лірычнага плану, ёсць тут чаканне і ростань закаханых.

**70403—015**

**ББК 84 Бел 7**

**Б М 302(05)—81 37—81**

**Бел 2**

Раиса Андреевна
БОРОВИКОВА

**Такое короткое лето**

Лирика

Минск, издательство «Мастацкая літаратура». На белорусском языке

Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак М. М. Селяшчук.
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава.
Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар К. У. Дзмітрыенка
IB № 1001

Здадзена ў набор 16.07.80. Падп. да друку 28.11.80. АТ 05291.
Фармат 70Х90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк.
Ум. друк. арк. 4,10. Ул.-выд. арк. 3,41. Тыраж 6000 экз.
Зак. 829. Цана 45 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР
па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю.
220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.
Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23